Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 30.000 м. п.

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 250000 м.п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. Цана абвестак: перад тэкстам 45.000 мк., сярод тэксту 35.000 м. і на 4 стр. 30.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 11. Вільня, Серада, 28-га лістапада 1923 г. Год I.

## Мабілізацыя фашыстаў.

Калі ад рукі польскага фашыста паў адзін з найсьвятлейшых прадстаўнікоў польскага дэмакратызму, першы прэзыдэнт Польскае Рэспублікі, Нарутовіч,— усе ждалі, што варшаўскі стрэл будзе сыгналам да агульнага выступленьня фашыстаў дзеля захвату ўлады.

Ждалі гэтага і працаўнікі фашызму. А як вайсковая ўлада была тады яшчэ ў болей-меней дэмакратычных руках, дык ураз-жа пасьля забойства Нарутовіча на вуліцах Варшавы зьявіліся верныя Рэспубліцы і Канстытуцыі войскі, і.., фашысты забілі адбой! Бо польскае чарнасоценства, як некалі і расейскія чорныя сотні, „адважна“ выступае толькі тады, *калі мае штыкі ня проці сябе, а за сабою.*

Цяпер, як відаць, фашысты спадзяюцца, што грунт для іх выступленьня падгатаваны лепш чым, у сьнежні год таму назад. І вось мы бачым першы фашыстаўскі „мабілізацыйны прыказ“ — заклік да тварэньня „Нацыянальнае Старожы“ („Straż narodowa“). „Прыказ“ падпісаны гэткімі фашыстаўскімі арганізацыямі: Саюз „Довборчыкаў“, Саюз „Гальлерчыкаў“, „Легія абароны Канстытуцыі“, Саюз гімнаст. т-ва „Сокол“ у Польшчы, Брацтва курковых стральцоў у Варшаве, Саюз Хрысьціянскіх рамесьнікаў. „Прыказ“ надрукаваны на першай страніцы варшаўскага лейб-органа эндэцкае ўрадовае партыі „Gazeta Warszawska“ 25 лістапада г. г.

Фашысты, як відаць з зьместу „прыказу“, пераканаты, што ўлада ім ня стане на дарозе. Яны пераканаты, што ўрадовая палітыка настолькі ўжо зруйнавала Польскую Рэспубліку, што *бяруць на сябе абавязак ураду „утрымаць у краю паруханы лад і парадак“.* І яны зусім адкрыта абвяшчаюць аб гэтым на страніцах газэты ўрадовае большасьці, адкрыта заклікаюць усе тыя элемэнты, што робяць Польшчу вастрогам для нязпольскіх меншасьцяў і для польскіх барацьбітаў за сацыяльнае вызваленьне працоўных масаў, каб „станавіліся ў паслухмяныя рады, запісываючыся ў адну з арганізацыяў, якія твораць Нацыянальную Старожу“.

„Нацыянальная Старожа“ — гэта рэальная запаведзь таго, аб чым даволі туманна гаворыць тая-ж „Gazeta Warszawska“ ў перадавіцы таго-ж нядзельнага нумару. Называючы ўсю дзяржаўную працу лявіцы „балотам“, газэта абвяшчае прыход нейкае новае сілы, што мае „ачысьціць“ гэнае балота. І тут выяўляецца цесная сувязь паміж запаведзьдзю эндэцкага лейб-органу і „Нацыянальнае Старожы“. Ня дзеля таго вырвана ўлада „з рук кабарэтных каботынаў, якія ад палітычнае распусты дайшлі да злачынства“, каб аддаць яе ў рукі элемэнтаў, склонных да кампрамісаў—„любіцеляў камэдыі“,—кажа „Gaz. Warsz“. ў рэдакцыйнай стацьці. Не коаліцыйнай, кампрамісная соймавай большасьці. дзе ёсьць і „няпэўныя“ з фашыстаўскага пагляду элементы, павінна прыналежаць улада, а тым бязспрэчным паклоньнікам фашызму, якіх арганізуе эндэцкая партыя.

Выступленьне „Нацыянальнае Старожы“ ў сувязі з заявамі лейб-органу эндэцыі стаўляе ў нязвычайна клапатлівае палажэньне сучаснага прэм'ера, п. Вітаса, і яго партыю. У нармальных варунках кожная ўлада была-бы прымушана неяк „сьціхамірыць“ тых, хто паміма канстытуцыйнага ўраду зьбіраецца сілай „утрымліваць паруханы лад і парадак“. Але пасягнуць на адкрыта выступіўшую фашыстаўскую арганізацыю—гэта-ж раўназначна аб'яўленьню вайны галоўнай спаміж урадовых партыяў: эндэцыі. І затым або п. Вітас павінен „паддацца“ новым прэтэндэнтам на ўладу, або... пашукаць апоры ў тых левых груп, якія ён так лёгкамысна здрадзіў, злучаючыся з эндэкамі.

Як бачым, чуткі аб зьмене ўраду, ці аб яго частковай рэканструкцыі маюць пад сабой пэўны грунт: запраўды, або з ураду выйдзе п. Вітас і „пястоўцы“, якія і так ужо маюць у ім мала вагі, або... будуць *прымушаны* выйсьці эндэкі.

Пачакаем разьвязкі: самі-ж эндэкі называюць перажываны намі мамэнт „кульмінацыйным“.

## З сойму і каля сойму.

Апошні тыдзень сьмела можна назваць выразным уступленьнем да поўнага развалу цяпер пануючай большасьці, хьена-пястоўскай хэўры. Выявілася гэта пры спрэчках так званай валёрызацыі падаткаў, якія дагэтуль вызначаліся ў польскіх марках і з прычыны яе галаваломнага падзеньня зыходзілі й зыходзяць на нішто, не гледзячы на тое, што выражаюцца мільёнамі. Міністар скарбу Кухарскі падаў у Сойм праект закону, каб „валёрызаваць“ падаткі, г. зн. устанавіць іх водпе цьвёрдай вартасьці швайцарскага франка. Такім чынам валёрызацыя мае напоўніць скарб падаткамі, зраўнаважыць буджэт і паўстрымаць марку ад аканчальнага падзеньня. Так казаў пан міністар Кухарскі. Лявіца таксама, наагул узяўшы, выказалася за валёрызацыяй. Тым часам з той самай правіцы выступае быўшы міністар (і, як кажуць, будучы!) П. Міхальскі і—пераварачвае да гары нагамі ўвесь скарбовы плян свайго партыйнага калегі. Аказваецца, што валёрызацыя—шкодная рэч: яна ўвядзе страшэнную анархію ў жыцьцё, павядзе да дарагоўлі, безрабоцьця, забастовак і... рэвалюцыі. Замест гэтага раіў *дастаць пазычку*, пазычкай пакрыць перарасход у буджэце, перастаць друкаваць маркі, а калі яна стабілізуецца, г. з. стане на адным мейсцы, тады ўвясьці добрыя грошы і завясьці добрую падатковую гаспадарку. Памоему валёрызацыя падаткаў да дабра не павядзе, а толькі вызаве йшчэ большую дарагоўлю і падзеньне маркі; папраўляць скарб трэба таксама пазычкай. Але-ж толькі—скуль узяць гэтую пазычку? Злыя языкі кажуць, што на сьвеце ня вераць у польскія парадкі і грошай няма ахвотнікаў даваць.

Езьдзіў пазычаць п. Кухарскі—не дастаў. Мо' йшчэ спрабуе шчасьце п. Міхальскі. Будзем жыць — пабачым. Дзіўна толькі тое, што правіца з Вітасам, узяўшыся быццам-то ратаваць скарб, ратаваць Рэч-Паспалітую (проціў ворагаў „панства“—сацыялістаў і меншасьцяў),—пашлі да гэтага ратунку бяз ніякага супольнага пляну, вось так, як кажа гутарка,—што галава, то розум. Дзіўна, дужа дзіўна... Але толькі на першы пагляд. Бо прыглядзеўшыся бліжэй, то яно йнакш і быць ня можа. Хто там сядзіць на правіцы, чые інтарэсы прадстаўляе і каго бароніць? Związek Ludowo-Narodowy, інакш эндэкі, (народовыя „дэмакраты“)—ў ім сядзяць вялікія фабрыканты, абшарнікі і іхныя лякаі. Партыя Дубановіча—самыя абшарніцкія жубры, якія і з цяперашняга ўраду не здаволены. Далей трэцяя партыя—хадэкі г. зн. хрысьціянская дэмакратыя абымае дробнае мяшчанства, дэвотак, збаламучанае ксяндзамі работніцтва і сялянства, побач з імі вялічэзны абшарнік Хлаповскі (цяперашні міністар Рольніцтва), а ўсе разам ідуць яны на павадку п. Корфантага, найвялікшага польскага багача і спэкулянта, які таксама належыць да „хрысьціянскай“ дэмакратыі. Вось які рабы абраз з паноў і—фабрыкантаў, спэкулянтаў і ксяндзоў, бязбожных мяшчан і фанатычных дэвотак. Поўную згоднасьць яны ўмеюць праяўляць толькі тады, калі трэба лаіць лявіцу і душыць меншасьці. Калі-ж прыходзіцца ўзяцца за дзяржаўную працу, то аказваецца, што гэтае згоды няма. Фабрыкантам трэба, каб хлеб быў танны і каб работніку ня прышлося шмат плаціць, абшарніку наадварот трэба, каб збожжа было дарагое, а фабрыкаты былі танныя. Да таго работнік, як-бы ні быў збаламучаны і здураны ксяндзоўскай агітацыяй, застаецца работнікам і ня можа згадзіцца, каб паны Корфантыя, хоць яны і хрысьціянскія дэмакраты, марылі яго галоднымі заработкамі. І вось хадэкі робяць від, што бунтуюцца, а мо' й запраўды пачынаюць біць адбой. Выходзіць, як ў той байцы, дзе лабудзь, рак і шчупак, упрогшыся ў воз, цягнулі яго кожны ў свой бок: хто ўверх, хто назад, хто ў ваду. У байцы воз так і астаўся на мейсцы. Гэта йшчэ толькі паўбяды: залажыў каня й паехаў. Але можна баяцца, што ў жыцьці дзяржаўны воз пры такой крутні ў розныя бакі ня вытрымае і можа перавярнуцца разам з няўдачным фурманом Вітасам, якому толькі здаецца, што ён кіруе... А воз так і цягне ў пропасьць разам з усім багажом. Здаецца, што правадыры ў апошні час крыху зразумелі, што воз няйдзе, пачалі пераменяцца мяйсцамі ды—йшчэ больш круціць у розныя бакі. Зьмянілі ўжо двох міністраў скарбу—Грабскага й Ліндэ, цяпер Кухарскі ўжо трэцьці пойдзе ў адстаўку. Міністар ваенны, ген. Шэптыцкі ўжо падаўся ў адстаўку. Фактычна цяперашні ўрад толькі тое й робіць, што зьмяняе міністраў і пляны направы скарбу ды цешыць абяцанкамі наіўных людзей. Але ўжо мала такіх, што вераць. Усюды адчуваецца нездаволеньне і неспакой. Усе чакаюць нечага важнага, нейкіх перамен. Павінен быць нейкі рэзкі пералом управа ці ўлева—але выразна й рашуча. Проста ў паветры чуваць, што абедзьве стараны шыхтуюцца да поўнай расправы... але йшчэ крыху пабаіваюцца.

Тым часам звычайныя заняткі Сойму ідуць сваім парадкам.

Цікавае было паседжаньне Прасьветнай камісіі 19 б. м. Разглядалася справа арганізацыі польскіх школ для польскіх эмігрантаў у Францыі, дзе іх цяпер каля 200 тысяч самых работнікаў. Тымчасам школ усяго 23 з выкладовай польскай мовай. Утрымліваюць гэтыя школы францускія фабрыканты на свой кошт. Чулася нараканьне, што францускі ўрад мала займаецца гэтымі школамі. Дзеля гэтага польскі ўрад мае ўжо гатовыя жаданьні, з якімі выступіць перад францускім, а паіменна:

1. у справе закладаньня школ, каб кожная капальня, фабрыка, прамысловы заклад ці двор, у якім працуюць польскія работнікі, маючыя агулам больш за 40 дзяцей у веку ад 6 скончаных гадоў да скончаных 13, мела абавязак залажыць і ўдзержываць бязплатную начатковую школу для гэтых дзяцей; калі-ж вышэй памянёны варунак ня мае месца ў адносінах да аднаго прадпрыемства, вышэйшы абавязак будзе ляжаць супольна на некалькіх прадпрыемствах, якія знаходзяцца ў адной або колькі найбліжэйшых валасьцёх не далей за 5 кілом. У разе адмовы з боку ўласьнікаў прадпрыемстваў ці двароў абавязак гэты ляжыць на францускім урадзе.

2. у справе выкладовой мовы, каб навука ўсіх прадметаў апрача францускай мовы, гісторыі і геаграфіі Францыі ў названых школах адбывалася папольску.

3. у справе правоў вучыцельства, каб у польскіх школах маглі-б выкладаць польскія грамадзяне.

4. у справе духоўнай апекі, каб ня было стаўлена перашкод пры арганізацыі рэлігійнай апекі над работнікамі польскімі эмігрантамі.

Скарыстаўшы з аказыі, пачалі польскія нацыяналісты наракаць, што ўсюды ў суседніх гаспадарствах прыціскаюць польскую школу, дайшлі навет да С.С.Р.Р., ад якога мае ўрад дамагацца палёгкі для польскай школы ў Радавых Рэспубліках. А пасол Рымар, які заўсёды выступае проціў беларусаў і ўкраінцаў у школьнай справе, заехаўшы аж у Сэрбію, пачаў горкія жалі выліваць на тое, што сэрбскі ўрад вымагае там ад польскіх вучыцялёў знаёмасьці сэрбскае мовы і сэрбскага абыватэльства (!!). Урэшце камісія дайшла да

